№25 ЛЮТЫ 2013

# Настаўнік.info

ІНФАРМАЦЫЙНА-МЕТАДЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ



## Тэма нумару: АКТЫЎНАЯ АЦЭНКА: КУРС ДЫСТАНЦЫЙНАГА НАВУЧАННЯ



*9 лістапада 2012 г. ў Беларусі пачаўся пілотны курс дыстанцыйнага навучання метаду актыўнай ацэнкі. У курсе бяруць удзел 60 настаўнікаў і 12 ментараў з усёй краіны. Навучанне ажыццяўляецца на платформе moodle. Курс складаецца з васьмі тэматычных модуляў, працягласць 6 месяцаў. На сённяшні дзень ідзе праца над шостым модулем "Самаацэнка і ўзаемаацэнка", працягваецца абмеркаванне справаздачаў. Вынікі курса будуць падведзены ў маі, але ўжо сёння можна сказаць – дзякуючы ТБШ мы сталі ўдзельнікамі вельмі цікавай і важнай дзеі.*



# РЭФЛЕКСІЎНЫЯ НАТАТКІ ПАВОДЛЕ ЧАРГОВАГА ЭТАПА ДЫСТАНЦЫЙНАГА НАВУЧАННЯ АКТЫЎНАЙ АЦЭНЦЫ

***Мікалай Запрудскі, Алена Радзевіч***

Справаздачы ўдзельнікаў дыстанцыйнага курса па першым, другім і трэцім модулях сведчаць аб высокім вашым, паважаныя калегі, прафесіяналізме і неабыякавасці, аб зацікаўленасці ў выкарыстанні актыўнай ацэнкі, аб першых поспехах і праблемах у прымяненні дадзенай стратэгіі навучання. Было цікава чытаць пра станоўчае стаўленне вашых вучняў да АА, пра высновы, якія вы робіце пасля першых спробаў у вызначэнні мэты на мове вучняў, крытэрыяў ацэнкі. Уражвае, наколькі прафесійная і карэктная размова ідзе на форумах! Ужо можна сказаць, што наша агульная справа атрымалася.



***Святлана Дзюбенка, Мікалай Запрудскі, Алена Радзевіч на IV Фестывалі нефармальнай адукацыі***

Поспеху спрыяе і тое, што нам прадстаўлена дасканалая платформа, якая дае шырокія магчымасці для ўзаемін, узаеманавучання і самаацэнкі, дае кожнаму зваротную сувязь і надзейна працуе.

Днямі адбылася ўжо другая сустрэча арганізатараў дыстанцыйнага курса і ментараў. Была вельмі карысная размова, якая дапамагла зверыць нашы пазіцыі, удакладніць спрэчныя моманты, падзяліцца ўражаннямі, сваімі і вашымі, калегі, метадычнымі знаходкамі.

Падчас нашага семінара мы, у прыватнасці, абмеркавалі прынцыповыя пытанні, якія, на наш погляд, у найбольшай ступені праявіліся ў справаздачах і каментарах да іх:

1. *Як пазбегнуць дубліравання ў вызначэнні і прадстаўленні ў планах урокаў элементаў АА: мэты, мэты на мове вучняў, НаШтоБуЗУ? А можа і добра, калі ёсць такое дубліраванне?*
2. *Як быць з выхаваўчай і развіццёвай мэтай? Якое тут месца павінна быць у задач урока?*
3. *Ці не зніжае магчымасці для творчасці дакладнае вызначэнне мэты на мове вучняў і НаШтоБуЗУ?*
4. *Серыя пытанняў пра настаўніцкія каментары да прац вучняў: Ці будзе вучань з пасрэднай паспяховасцю належным чынам рыхтавацца да ўрокаў, ведаючы, што дрэннай адзнакі ён не атрымае? Што можна зрабіць, каб вучань належным чынам рыхтаваўся да ўрокаў, звяртаў увагу на настаўніцкі каментар і імкнуўся выпраўляць сваю работу, нават калі ён будзе ведаць, што да бліжэйшай праверачнай работы не будзе атрымліваць адзнак? Як быць, калі дзеці жадаюць атрымаць адзнакі кожны урок?!!*

**Засяродзім увагу на першым пытанні.** Для пачатку звернемся да азначэння паняцця «мэта» у слоўніку. **Мэта** — ідэальны або рэальны прадмет свядомага або несвядомага імкнення суб'екта, **канчатковы вынік**, на які спецыяльна скіравана дзейнасць. **Значыць, настаўніку патрэбна, запісваючы мэту ўрока, указваць на той вынік, які плануецца атрымаць: пэўныя веды і ўменні вучняў**. Гэта сапраўды важна, бо з'яўляецца для педагога арыенцірам дзейнасці. Калі ж мы запісваем мэты з дапамогай дзеясловаў: паўтарыць, даказаць, сфарміраваць, стварыць умовы, пазнаёміць і г.д., то гэта ёсць толькі ўказанне на намеры настаўніка, на тое, што ён сам збіраецца рабіць на ўроку. У такіх выпадках мы часта бачым, што педагог працуе (паўтарае, знаёміць, фарміруе…), а вучні не праяўляюць актыўнасці. Больш за тое, запіс мэты праз дзеянні настаўніка носіць выключна фармальны характар, бо пры яе адсутнасці на ўроку нічога не зменіцца.

Калі ж мэта запісана праз плануемы вынік, то педагог пры падрыхтоўцы да ўрока думае не што сам будзе рабіць, а што павінны будуць рабіць вучні, каб дасягнуць канкрэтна і дыягнастычна зададзенай мэты, а на ўроку ён арганізуе адпаведную іх дзейнасць. Што значыць дыягнастычна зададзеная мэта? Гэта такое яе заданне, калі мэта з'яўляецца сродкам вымярэння, высвятлення ступені яе ж дасягнення.

Прывядзем варыянты дыягнастычнага апісання настаўнікам навучальнай мэты ўрока:

- к заканчэнню ўрока вучні будуць ведаць… *(правіла, дату, формулу, азначэнне і г.д.)*; будуць умець… *(пералічваць, узнаўляць, прыводзіць прыклады, тлумачыць сэнс і да т.п.)*,
- вучні змогуць, напрыклад,
  - рашыць задачу тыпу *(указваецца нумар)*,
  - выканаць тэст *(дадаецца)*,
  - скласці дыялог *(настаўнік сам добра прадстаўляе патрабаванні да яго)*,
  - разабраць сказ па часцінах мовы,

- правільна запоўніць контурную карту і г.д.

Прыведзеныя варыянты даюць магчымасць напрыканцы ўрока настаўніку ўбачыць і ацаніць ступень дасягнення мэты кожным вучнем з дапамогай праверачных заданняў (пажадана адзін варыянт), якія атрымаюць усе вучні.

**Многія педагогі справядліва лічаць, што ўрок будзе эфектыўным, калі мэты вучняў супадаюць з мэтай настаўніка.** Калі з гэтым пагадзіцца, то пералічаныя вышэй варыянты могуць быць запісаны для вучняў на дошцы, на экране, або на аркушы паперы, але павінна быць іншай форма дзеяслова — ад першай асобы: я буду ведаць, я буду ўмець, я змагу (далей пералічваецца, што буду ведаць, умець, змагу).

Для запісу мэты на мове вучняў могуць прымяняцца розныя спосабы, напрыклад:

- настаўнік сам прапаноўвае мэту на мове вучняў. Гэты варыянт найбольш падыходзіць, калі вучні матываваныя, калі настаўнік харызматычны, калі складаная тэма і дзецям самім складана вызначыць мэты для сябе. Пры гэтым дзейнасць вучняў будзе, хутчэй, выключна выканальніцкай;
- напачатку ўрока арганізуецца індывідуальная, у парах, або групавая работа па вылучэнні асабістых мэтаў. Напрыклад, такое адбываецца, калі настаўнік гаворыць вучням: «Паглядзіце назву тэмы ўрока. Як вы напрыканцы яго даведаецеся, што тэму засвоілі?». Вучні называюць пэўныя аспекты, якія становяцца прадметам навучання. Такі варыянт павышае матывацыю вучняў і ён падыходзіць, калі вывучаецца вучэбны матэрыял, які мае тыповую структуру: фізічны закон, кіслата па хіміі, геаграфія краіны і г.д. Гэтыя структурныя кампаненты ведаў, як вядома, вывучаюцца па пэўным алгартыме. Самастойнае вызначэнне мэты спрыяе ажыццяўленню не толькі выканальніцкай дзейнасці, але і пераўтваральнай;
- педагог запісвае сваю мэту (у пазначаным вышэй варыянце) і прапануе пагадзіцца з ёй або ўнесці пэўныя карэктывы;
- настаўнік прапануе вучням выбраць для сябе мэту з прыведзенага спісу. Выбар стварае ўмовы для павышэння іх адказнасці і пазнавальнай актыўнасці і інш.

Вызначацца яшчэ і на тэму, на пэўны этап урока, для класнага або дамашняга задання для вучняў, для выніку працы і да працэсу дзейнасці. Па змесце (а не па форме прадстаўлення) НаШтоБуЗУ можа паўтараць мэту на мове вучняў, а можа яе канкрэтызаваць.



Вельмі істотна, каб мэта на мове вучняў была ўвесь урок перад вачыма дзяцей, каб можна было арганізоўваць сітуацыі ацэнкі вучнямі таго, як яны набліжаюцца да мэты, ажыццяўляць неабходную карэкцыю і вызначацца пра змест і характар далейшай працы. Мэта на мове вучняў можа стаць сродкам вымярэння на заканчэнні ўрока ступені яе дасягнення, што дае магчымасць ажыццяўляць карэкцыю і аптымізаваць змест хатняга задання.

Пры вельмі канкрэтным апісанні мэты на мове вучняў, напрыклад: *я змагу скласці з аднакласнікам дыялог з васьмі сказаў з правільным прымяненнем наступных лексічных адзінак (указваюцца) і з дзеясловамі ў мінулым часе – няма патрэбы ў НаШтоБуЗУ*. Пры недастатковай канкрэтызацыі мэты настаўніка і мэты на мове вучняў узнікае неабходнасць у гэтым элеменце актыўнай ацэнкі.

НаШтоБуЗУ мы разумеем як пералік крытэрыяў ацэнкі або поспеху. Як адзначыў нехта з удзельнікаў нашага праекта, гэта кантракт паміж вучнем і настаўнікам на дадзены ўрок. Калі мэта фармулюецца на ўвесь урок, то гэты элемент можа

Настаўнік НаШтоБуЗУ фармулюе ў кантэксце мэты з дапамогай, напрыклад, наступных клішэ:

- я буду звяртаць увагу на … (напрыклад, на паўнату выкананага задання, на дакладнасць азначэнняў, на тое, ці выкарысталі вы дадзеныя, атрыманыя ў доследзе, ці зможаце вы назваць тры галоўныя прычыны, на правільнае ўжыванне тэрмінаў і г.д.);
- я буду назіраць і адзначаць, як вы працуеце ў групе (ці размеркавалі абавязкі, ці ўсе працавалі, ці ўмееце вы слухаць адзін аднаго і г.д.);
- мяне будзе асабліва цікавіць у вашай рабоце тое, як вы прымяняеце правіла, наколькі акуратна вы будуеце графік і інш;
- вы працуеце, а я буду ўважліва назіраць, як вы набліжаецеся да мэты, якую вызначылі для сябе. Калі патрэбна, буду дапамагаць. і да т.п.

Ёсць варыянты давядзення вучням НаШтоБуЗУ:

- настаўнік вусна або пісьмова паведамляе вучням, на што будзе

звяртаць увагу ў працы вучняў і яе выніках;

- настаўнік выдае вучням не толькі класныя або дамашнія заданні, але і адпаведныя крытэрыі ацэнкі, афармленыя ў выглядзе памяткі;
- вучні па просьбе настаўніка дапамагаюць яму стварыць НаШтоБуЗУ (калі яны маюць мэту на іх мове, то могуць гэта зрабіць).

Калі НаШтоБуЗУ будуць мець бацькі вучняў, то гэта іх рэальна можа ўключыць у кантрольна-ацэначную дзейнасць.

Такім чынам:

1) навучальную мэту вызначае настаўнік праз плануемы вынік урока;
2) настаўнік, вучні або вучні з дапамогай настаўніка вызначаюць уласную мэту, якая запісваецца на дошцы або іншым чынам даводзіцца да вучняў;
3) калі мэта на мове вучняў недастаткова канкрэтная, то фармулюецца НаШтоБуЗУ, якое вызначае настаўнік (іншы раз з дапамогай вучняў). Гэты пералік дакладных і канкрэтных крытэрыяў абавязкова даводзіцца да вучняў.

**Цяпер звернемся да другога пытання:** «Як быць з выхаваўчай і развіццёвай мэтамі? Якое тут месца павінна быць у задач урока?» Сапраўды, існуе патрабаванне аб «триединой цели». У гэтым ёсць рацыя, бо на ўроку, як вядома, паралельна ідуць тры працэсы: навучанне, выхаванне і развіццё.

Навучальную мэту на ўрок сфармуліраваць проста: пералічыць веды і дзеянні, якімі будуць валодаць вучні. На заканчэнні ўрока і настаўнік, і вучні змогуць ацаніць, наколькі яны дасягнулі мэты, убачыць, чаму радавацца і над чым працаваць далей. Выхаваўчую і развіццёвую мэты нельга вызначыць на ўрок, бо яе ў прынцыпе нельга апісаць, яна носіць верагоднасны характар і нельга вымераць ступень яе дасягнення. Таму гэтыя мэты вызначаюцца праз ідэальнае, прагнозае прадстаўленне аб выпускніку, якое можа быць аформлена з дапамогай адпаведнай кампетэнтнаснай мадэлі.

Тут дарэчы звярнуцца да задач. **Задача па азначэнню – гэта тое, што патрэбна зрабіць, каб дасягнуць мэты.** Калі ў мадэлі выпускніка адзначана даследчая кампетэнцыя, то задача на ўрок можа быць такой: спрыяць развіццю даследчых уменняў вучняў; калі адзначана кампетэнцыя самаацэнкі, то задача можа быць вызначана так: садзейнічаць развіццю здольнасці да самаацэнкі і г.д. Пры гэтым задачы вызначаюцца, калі адпаведных кампетэнцыяў пакуль бракуе ў вучняў. У многіх выпадках мае значэнне тэма ўрока. Выхаваўчыя і развіццёвыя задачы, канечне, не патрэбна паведамляць вучням.

Для першага з прыведзеных вышэй прыкладаў задачы выхавання і развіцця могуць быць наступнымі:

- спрыяць выхаванню павагі і цікавасці да роднай мовы,
- садзейнічаць развіццю ў вучняў памяці і ўважлівасці.

Што тычыцца навучальнай задачы, то яна можа быць вызначана на кожны этап урока, напрыклад, на дыягнастычны этап – ажыццявіць дыягностыку валодання вучнямі апорнымі ведамі. Навучальныя задачы, на наш погляд, не трэба запісваць у плане ўрока і няма патрэбы даводзіць да вучняў. Яны самі сабе іх могуць вызначыць адпаведна мэты і настаўніцкага НаШтоБуЗУ.

**Трэцяе пытанне:** ці не зніжае магчымасці для творчасці дакладнае вызначэнне мэты на мове вучняў і НаШтоБуЗУ? І так, і не так. Дакладнае вызначэнне мэты (а НаШтоБуЗУ можна разумець як сродак канкрэтызацыі мэты) сапраўды можа зрабіць дзейнасць выключна выканальніцкай – вучні нічога новага, магчыма, не створаць. Але ж яны могуць праявіць творчасць у пошуку і прымяненні сродкаў для дасягнення мэты, калі гэтыя сродкі ім не навязваюцца.

Калі крытэрыі да настаўніцкіх заданняў задаюцца не жорстка (што зразумела для ўрокаў гуманітарных: літаратуры, гісторыі, музыкі), то ў вучняў застаецца шмат свабоды для праяўлення і развіцця сваёй крэатыўнасці.

**Пра серыю пытанняў адносна трэцяга модуля.** Яны выклікалі супярэчлівыя разважанні, хваляванні і нават няўпэўненасць у карысці той справы, якую мы робім. І гэта зразумела, бо тут ў значнай ступені педагогам прыходзіцца істотна змяняць свой звыклы стыль выкладання і ацэньвання.

Дакладна тое, што немагчыма даць адзіны рэцэпт, які дазволіць тут пазбегнуць праблем і цяжкасцей. Былі наступныя меркаванні:

– Не ўсё так дрэнна, як здаецца, спачатку заўсёды цяжка. На ўласным вопыце ўпэўнілася, што справядлівая прымаўка: «вада камень точыць». Каб набыць прыхільнікаў, прыводзьце аргументаваныя доказы, а аўтарытэт настаўніка зробіць іх больш важкімі.

– А кто сказал, что в нашей профессии легко?! Действительно, нам часто приходится преодолевать много препятствий - и администрацию, и родителей, и ..., и порой даже СЕБЯ!!! Но то, что нас заставляет неизменно двигаться вперёд - дети! Не отчаивайтесь! Не дайте возможность ВРЕМЕННЫМ проблемам взять над Вами верх! Поверьте, наступят переломные моменты и в сознании детей, и их родителей, и администрации. Проявите ТЕРПЕНИЕ и УПОРСТВО.

Паважаныя ўдзельнікі дыстанцыйнага навучання, пакуль вы працягваеце выкананне заданняў трэцяга модуля, звярніце ўвагу на адзначаныя пытанні; паспрабуйце на іх адказаць на падставе рэфлексіі вашага вопыту напісання каментараў да вучнёўскіх работ.

На заканчэнне скажам так: любыя інавацыі пачынаюцца з намераў і рашучасці змяніць сябе. Павярхоўных пераменаў дасягнуць няцяжка: перакроіць план урока гэтак жа лёгка, як надзець іншае адзенне або перафарбаваць валасы. А вось больш глыбокія змены - справа зусім іншая. Цяжка змяніць звыклыя метады ацэньвання. Цяжка перагледзець мэты, дзеля якіх мы выкладаем, або нашу звыклую манеру выкладання матэрыялу. Тым не менш, калі мы разлічваем дасягнуць глыбокіх і ўстойлівых змяненняў у нашых вучнях і ў грамадстве ў цэлым, мы павінны быць гатовыя карэнным чынам змяніць уласныя настаўніцкія звычкі і напрацаваныя метады навучання. А гэта зусім няпроста… Таму МЫ РАЗАМ З ВАМІ!

# Тамара Мацкевіч: «ПАГЛЯДЗІЦЕ, КОЛЬКІ НОВЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ МЫ МАЕМ, КОЛЬКІ ПЕДАГАГІЧНЫХ ІДЭЙ!»

***Тамара Мацкевіч, кіраўнік курса, намеснік старшыні ТБШ адказала на пытанні пра стварэнне дыстанцыйнага курса навучання.***

***Спн. Тамара, што ўяўляе сабой створаны Вамі дыстанцыйны курс «Актыўная ацэнка?»***

Праект пілотны і мы самі яшчэ вучымся. Курс разлічаны на 6 месяцаў і заснаваны на прынцыпе: роўны вучыць роўнага. У якасці ментараў выступаюць педагогі, якія ўжо засвоілі метад актыўнай ацэнкі. Курс практыка-арыентаваны, з невялікай тэарэтычнай часткай. Навучэнцы курса кожныя тры тыдні атрымліваюць невялікі дыдактычны матэрыял, напрыклад, пра стварэнне зваротнай сувязі паміж навучэнцам і настаўнікам, і заданне, якое неабходна выканаць у сваім класе. Па выніках настаўнікі пішуць невялікія справаздачы. А ўжо затым у работу ўключаюцца ментары, якія з дапамогай актыўнай ацэнкі пракаментуюць выкананыя заданні. За заданні балы не ставяцца. Тут галоўны вынік – набыццё практычных уменняў і навыкаў.

***Якія цяжкасці прыйшлося пераадолець Вам, спн. Тамара, як арганізатару першага ў Беларусі курса дыстанцыйнага навучання па АА?***

- Каб я ведала наперад, якія будуць цяжкасці, відаць, ніколі б не ўзялася за стварэнне курса. Але курс пілотны, я не магла сабе ўявіць, з чым прыйдзецца сутыкнуцца. Не ведаў, за які аб'ём працы бярэцца і праграміст – хлопчык-трэцякурснік, і я думаю, што ніхто з нас – першых ментараў і студэнтаў, таксама не мог уявіць, за што мы ўзяліся і што з гэтага атрымаецца. Бо стварэнне такога курса – па добраму, праца для цэлага аддзела Нацыянальнага Інстытута адукацыі. Можа, нават не аднаго. Па-першае, актыўная ацэнка – гэта цэлая метадычная сістэма, якую трэба было адаптаваць да нашых умоваў. Па-другое – гэта вялікі аб'ём працы: перакласці, вычытаць, знайсці адпаведныя цытаты і прыклады з беларускай практыкі. Па трэцяе, падрыхтаваць ментараў – за дапамогу дзякуй польскім калегам. Адносна лёгка было знайсці студэнтаў (мы нават абвесткі ніякай не давалі). Дзякуй Богу, у нашай сістэме яшчэ засталося шмат настаўнікаў кваліфікаваных і матываваных. Але, як кажуць, «вочы баяцца, а рукі робяць». Наш курс працуе. Вырашыліся і тэхнічная праблемы, якіх было даволі шмат, спадзяюся, студэнтам было гэта не вельмі заўважна. Галоўнае, побач былі людзі, якія падтрымлівалі ідэю і дапамагалі. Цяпер большасць з іх – мае сябры.

***Што, Вы лічыце, ужо ўдалося на сённяшні дзень?***

Першы практыка-арыентаваны дыстанцыйны курс ў Беларусі працуе – і гэта галоўнае. Але самае важнае, чаго мы дасягнулі – гэта зразумелі, што мы здольныя мяняцца, удасканальвацца, развіваць сябе і адукацыю. І ніхто нам не можа перашкодзіць. Мы – нармальная еўрапейская краіна з нармальным народам і добрымі прафесіяналамі. Можам самі вырашыць праблемы, а не чакаць чарговых інструкцый. Калі трэба – бярэм і робім. Паглядзіце, колькі новых матэрыялаў мы маем, колькі педагагічных ідэй! Гэта вынік сінергіі, як цяпер модна гаварыць. Паасобку гэтага не дасягнуць нікому.



Для мяне гэта самае галоўнае – мець супольнасць аднадумцаў.

***Што б Вы параілі тым асобам, хто збіраецца ствараць іншыя дыстанцыйныя курсы для настаўнікаў?***

Прыглядзецца, як гэта робяць іншыя, але рабіць сваё – беларускае. Мы ўбачылі, што дыстанцыйнае навучанне – гэта хутчэй не навучанне, а падтрымка для настаўніка. Падтрымка і з боку ментараў, і з боку калег. І ў нас атрымалася.

*Пытанні задавала Наталля Ільініч.*

# УРАЖАННІ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ АД АСВАЕННЯ АКТЫЎНАЙ АЦЭНКІ НА ДЫСТАНЦЫЙНЫМ КУРСЕ

***Данута Стэрна, эксперт методыкі АА ў Польшчы:***

Я вельмі ганаруся вамі. Гэта цудоўна – 60 чалавек на курсе! Вы вельмі адважныя і вельмі добрыя настаўнікі, адкрытыя для новага.



Я хачу сказаць, што мы выкарыстоўваем вашы ключавыя пытанні на сваіх семінарах. Яны вельмі якасныя і настаўнікі хочуць бачыць усе відэа-прэзентацыі гэтых пытанняў. Я распавядаю польскім настаўнікам пра актыўную ацэнку ў Беларусі вельмі часта. Два дні таму я была на польскім семінары па актыўнай ацэнцы. Настаўнікі падказалі мне адзін цікавы спосаб, як працаваць з мэтамі. Яны сказалі: «Мы вешаем мэты на сценку і просім вучняў пазначыць момант, калі мэта будзе дасягнута. Тады першы вучань ідзе да сцяны і робіць адзнаку. Вучні сочаць за мэтамі ўважліва, бо кожны хоча быць першым». Гэта вельмі проста, і я рэкамендую вам паспрабаваць.

***Святлана Ляшонак, настаўніца англійскай мовы Глыбоцкай гімназіі:***

У першую чаргу хацелася б адзначыць тое, што навучанне на дыстанцыйным курсе яшчэ і падымае самаацэнку настаўніка. Калі працуеш, потым пішаш справаздачу, узнікаюць сумненні, а можа я раблю нешта не так, а калі атрымаеш такі станоўчы каментар – адразу «вырастаюць крылы» (вось што робіць правільная ЗС!).

***Алена Кананові, настаўніца пачатковых класаў Дзераўнянскай СШ Стаўбцоўскага раёна:***

Пасля кожнага модуля ажыццяўляю рэфлексію сваёй дзейнасці. Яшчэ раз упэўнілася: памылка не заўсёды кепска. Дзякуючы зваротнай сувязі, мы маем магчымасць бачыць поспех і няўдачу. Ментары даюць канструктыўныя парады па карэкцыі дзейнасці. Мне падабаецца, што робіцца гэта вельмі карэктна, тактоўна. Прапанаваныя пытанні і заўвагі канкрэтныя, зразумелыя. Апынуўшыся ў ролі вучня на дыстанцыйным навучанні, я думаю, што кожны з нас цяпер часцей будзе ставіць сябе на месца вучня пры арганізацыі адукацыйнага працэсу. Неабходны прынцып актыўнай ацэнкі – самацэнка, а дзякуючы зваротнай сувязі яе лягчэй развіваць. Зваротная сувязь ажыццяўляецца не толькі паміж студэнтамі і ментарамі, але і паміж студэнтамі (вялікі дзякуй Таццяне Глушаковай за ідэю аб карысных спасылках па ДН). Вельмі добра, каб зваротная сувязь на ДН магла ажыццяўляцца і пры дапамозе святлафора: зялёны смайлік – усё зразумела, жоўты смайлік – ёсць пытанне, чырвоны – не разумею, ёсць цяжкасці. Бо перачытаць усе справаздачы цяжка, а звярнуцца па дапамогу іншы раз хочацца. Мы ўсе вучымся.

***Таццяна Глушакова, настаўніца англійскай мовы Урыцкай СШ Гомельскага раёна, аўтар блога настаўнікаў замежнай мовы і блога настаўнікаў Беларусі:***

Сапраўды, элементы тэхналогіі АА, якую вывучаем, час ад часу натхняюць. Я бачу ў ёй шмат разумнага. Здаецца, вядомыя ўсё рэчы, а быццам упершыню прыходзіш да іх разумення. І мне гэта падабаецца…

***Алена Сеген, метадыст АПА:***

Тлумачэнне НаШтоБуЗУ мае вельмі шмат пераваг. Па-першае, гэта дапамагае вучням акрэсліваць галоўнае з другараднага, гэта развівае ўменне выдзяляць асноўную важную інфармацыю з вялікай яе колькасці. Па-другое, ацэнка настаўнікам вучнёўскай працы не выклікае ў яго ніякага сумнення ў яе неаб'ектыўнасці. Па-трэцяе, я лічу самае галоўнае, вучань ведае, якія патрабаванні павінен выканаць, каб атрымаць добры вынік на праверачнай рабоце.

***Алена Радзевіч, ментар ДН, метадыст АПА:***

Дзякуй усім настаўнікам, якія паляпшаюць свае навыкі валодання актыўнай ацэнкай, каб дасягнуць якасці і падтрымліваць яе на высокім узроўні. Самае галоўнае – ісці да канца, не баяцца памыліцца і разам шукаць выйсце са складаных сітуацый. Выказванне Рональда Осбарна – вядомага англійскага фізіка і інжынера, якое мне вельмі падабаецца: «Калі не будзеш спрабаваць рабіць нічога, акрамя таго, што ты ўжо добра ўмееш рабіць, ніколі не зможаш расці».

Усім жадаю цярпення, настойлівасці і руху наперад!

***Алена Цынкевіч, настаўніца хіміі гімназіі № 35 Мінска:***

НаШтоБуЗУ – гэта кантракт паміж вучнем і настаўнікам на гэты ўрок. Вучань можа патрабаваць ад настаўніка тлумачэння незразумелых яму пытанняў, а настаўнік мае поўнае права спытаць у вучня ўсё, што прапісана ў НаШтоБуЗУ.

Пасля таго, як я стала выкарыстоўваць НаШтоБуЗУ, у канцы ўрока вучні лягчэй рэфлексуюць сваю дзейнасць, хутчэй арыентуюцца ва ўласных цяжкасцях, пытанні задаюць больш канкрэтна.

***Таццяна Барткевіч, настаўніца беларускай мовы Глыбоцкай гімназіі:***

У выніку ўвядзення зваротнай сувязі сталі акуратней пісаць у сшытках, больш уважліва ставіцца да выканання граматычнага задання. Дзеці, якія рыхтуюцца да алімпіяды, гавораць, што перачытваюць каментары пры напісанні кожнага новага водгука. І я сапраўды бачу рост. А вынік убачым на самой алімпіядзе. Як кажуць, не кажы гоп не пераскочыўшы.

Яшчэ раз упэўнілася: «птушкі», рысачкі, розныя літары на полі (пазначэнне арфаграфічных, пунктуацыйных, моўных, памылак у змесце) – гэта «бухгалтэрыя» больш для настаўніка. Для дзяцей – гэта «бязвобразная мова». Аднак загружанасць не дазволіць рабіць як лепш.

***Ала Ярмак, настаўніца пачатковых класаў, Стоўбцы:***

У мяне зараз першы клас. Я на сходзе дамовілася з бацькамі – дасылаць ім электроннай поштай крытэрыі НаШтоБуЗу і зваротную сувязь. Лічу гэта мэтазгодным, бо ў першым класе дзеці яшчэ дрэнна чытаюць, а бацькі заўсёды побач і дапамагаюць ім. Таму магчымасць падрыхтаваць дзяцей да праверачнай работы, а затым убачыць вынік праз ЗС прадастаўляю самім бацькам. Такім чынам, яны адчуваюць адказнасць за вучобу іх дзіцяці, спрабуюць дапамагчы яму пераадолець цяжкасці. За тыдзень перад праверачнай работай даслала ліст з крытэрыямі НаШтоБуЗу.

Дзеці прыходзілі ў школу і з гонарам гаварылі сваім аднакласнікам, што я напісала ліст для бацькоў, не падазраючы пра тое, што гэткія ж лісты атрымалі ўсе вучні класа. Ім было прыемна ўсведамляць, што настаўнік звярнуў увагу на яго і яго поспехі. А вось у 4 класе дзеці з нецярпеннем чакалі ад мяне ліста і нікому яго не паказвалі. Разыдуцца па класе і чытаюць ціхенька, каб ніхто не бачыў. У гэтым была нейкая таемнасць. У кожнага была свая таямніца на дваіх (я і настаўнік). Я бачыла у іх вачах надзвычайную радасць.

З увядзеннем ЗС мне стала лягчэй. Бацькі прыйшлі на дапамогу. Яны, чытаючы лісты і рэкамендацыі, з задавальненнем дапамагаюць свайму дзіцяці выправіць прабелы ў ведах. А мне гэта і трэба: каб матэрыял быў паспяхова засвоены, трэба замацаваць яго дома.

***Міхась Кудзейка, ментар ДН, выкладчык БДПУ:***

Філасофія АА мае на ўвазе змяненне свядомасці дзіцяці ў адносінах да адзнакі і актуальнасці ведаў. Таму пры ажыццяўленні ЗС трэба матываваць дзіця не на павышэнне бала: “Мікіта, калі ты жадаеш павысіць адзнаку за работу, то магу табе прапанаваць дадатковыя заняткі пасля ўрокаў”, а на павышэнне ўзроўню ведаў. Калі матываваць дзіця на бал, то яго сумленне яму дазволіць спісаць у аднакласніка, каб дасягнуць патрэбны вынік (павысіць бал). Калі ж матывацыйны ўпор зроблены на веды, то для дасягнення мэты вучань можа папрасіць дапамогі ў таварыша, бо для дасягнення гэтай мэты спісванне становіцца бессэнсоўным.

***Марына Калбасіч, намесніца дырэктара, настаўніца геаграфіі, Глыбокае:***

У выніку ўвядзення ЗС вучні бачаць канкрэтны вынік сваёй працы, інфармацыю, якая іх падтрымлівае, а не карае: моцныя бакі сваёй працы і тое, над чым ім трэба папрацаваць. Я ўбачыла імкненне палепшыць свае веды нават у слабых вучняў.



***Алена Кананові́ч, настаўніца пачатковых класаў Дзераўнянскай СШ Стаўбцоўскага раёна:***

Рэакцыя вучняў на ўвядзенне зваротнай сувязі – здзіўленне, радасць ад станоўчых момантаў, адзначаных настаўнікам у каментары, у многіх (не ва ўсіх) жаданне зараз жа прыступіць да выпраўлення недахопаў. Мне здаецца, што вучні сталі больш згуртаванымі,таму што дапамагаюць адзін аднаму, тлумачаць незразумелае, нават «падцягваюць» слабейшых. А яшчэ, гэта неверагодна, больш адказнымі.

***Вольга Дзмітрачкова, выкладчыца педыятрыі Беларускага медыцынскага каледжа, Мінск:***

Усе навучэнцы ацанілі ЗС станоўча. Пісьмовыя каментары сустракаюць з яўным зацікаўленнем, без ранейшага напружання «што мне там паставілі?».

Пасля ўвядзення новай сістэмы ацэньвання ў вучняў знікла нервовасць ад верагоднасці няправільнага адказу. На занятках больш спакойная і ў той жа час больш засяроджаная атмасфера.

Дзякуючы АА, мне здаецца, ужо бачныя станоўчыя зрухі: няхай не ўсе навучэнцы хапаюцца за магчымасць выправіць вынік (для мяне галоўнае больш даведаюцца, а не павысіць бал), а перасталі баяцца пісьмовых апытанняў, яны перасталі баяцца адказваць і выказваць свае меркаванні. Калі работа напісана добра, то мой каментар утрымлівае пахвалу і ўказанне на якую-небудзь цікавую асаблівасць тэмы, якая па сілах моцнаму вучню (варыянт творчага задання). Канечне, магу паставіць адзнаку, яшчэ ніхто ад высокіх балаў не адмаўляўся… Стараюся знайсці час для працы з гультаямі, тут магчымыя варыянты: паўторная пісьмовая работа ці вусная гутарка, ці выдаю спіс хітрых пытанняў, на якія няма простага адказу ў кнізе, назначаю тэрмін адказу па гэтых пытаннях. Тут патрэбны індывідуальны падход.

***Юрась Каласоўскі, настаўнік беларускай мовы гімназіі №1 Магілёва:***

Я растлумачыў вучням, чым адрозніваецца падсумоўваючая ацэнка ад актыўнай, звярнуўшы ўвагу на тое, што актыўная ацэнка – гэта ацэнка, якая дапамагае вучню вучыцца, а падсумоўваючая ацэнка – гэта ацэнка, якая вызначае ўзровень ведаў вучня па дадзенай тэме. Пры гэтым я адзначыў, што ў працэсе навучання мы не можам цалкам адмовіцца ад падсумоўваючай адзнакі і прапанаваў дзецям падумаць, у якіх выпадках лепш выкарыстоўваць актыўную ацэнку, а ў якіх – падсумоўваючую.

Звярнуў увагу дзяцей на тое, што такім чынам хачу дапамагчы ім вучыцца, а таму мы павінны разам

вызначыць стратэгію аб’яднання гэтых двух метадаў ацэньвання.

Пасля абмеркавання ў класе папрасіў дзяцей напісаць на лістках свае думкі наконт таго, што павінна ацэньвацца падсумоўваючай адзнакай, а што – актыўнай ацэнкай. Такім чынам, мы разам з вучнямі вызначылі наступную ***стратэгію ацэньвання***:

1. кожная праверачная работа ацэньваецца падсумоўваючай адзнакай;
2. для праверкі іншых відаў работ выкарыстоўваецца актыўная ацэнка, пры гэтым пасля раздачы вучнёўскіх з каментарамі настаўніка дзеці могуць папрасіць выставіць ім бал;
3. настаўнік у каментары да работы вучня можа зрабіць наступную заўвагу: «Калі ты выправіш сваю работу так, як тут напісана, то атрымаеш лепшую (указваецца, якую) адзнаку».

***Іна Шымко, настаўніца гісторыі Глыбоцкай гімназіі:***

Актыўная ацэнка накіравала, у першую чаргу мяне, на больш дакладную і дзейсную зваротную сувязь. Зваротная сувязь дапамагае мне і маім вучням больш грунтоўна ладзіць дыялог на ўроку, мы пакрыху сціраем бар’ер перад страхам задаваць пытанні (настаўнік не жадае паставіць дрэнную адзнаку, а жадае растлумачыць) і мне, як настаўніку, больш дакладна акрэслены межы маіх недапрацовак (якое пытанне незразумела, дзе падказаць, над чым працаваць яшчэ і г.д.).

Зваротная сувязь вучням падабаецца, бо ўжо на ўроку можна вырашыць з дапамогай настаўніка або аднакласнікаў незразумелыя пытанні. Галоўнае, даць зразумець вучням, што прызнацца ў тым, што ёсць пытанні, або штосьці не зразумела – гэта не сорамна.

Колькі разоў вучню можна выпраўляць работу? Мы дамовіліся з вучням на адзін шанец. Чаму? 1) створаны ўмовы, каб вучыць добра (канкрэтныя НаШтоБуЗУ на ўроку, зараней дадзеныя НаШтоБуЗУ да раздзела, кансультацыя з настаўнікам – хто жадае, той скарыстоўвае), 2) траціцца час на шматразовае перапісванне работы – не ўсім гэта падыходзіць), 3) расслабляе-адразу можна і не вучыць, 4) па гісторыі і так аб’ёмны матэрыял, каб рабіць яго яшчэ больш аб’ёмным (невывучаны матэрыял мае тэндэнцыю накаплівацца).

Я думаю, кожны настаўнік выбірае свой варыянт, галоўнае, каб ён быў выніковы. Ведаеце, а задавальненне, канечне, ёсць. Стала больш цікава працаваць і галоўнае, сам атрымліваеш задавальненне ад таго, што ўрок не прайшоў дарма.

***Ганна Кавалёва, настаўніца нямецкай мовы, Урыцкае, Гомельскі раён:***

Зваротнай сувяззю дзеці задаволены. Цяпер жа яны канкрэтна ведаюць, што дапрацаваць і давучыць. Акрамя таго, бацькі ведаюць прабелы дзіцяці і, калі не могуць дапамагчы, то ўжо пракантралююць абавязкова.

Мне лягчэй працаваць, а дзецям вучыцца. Бо каментар – гэта дакладная інструкцыя. Калі дзіця яе выконвае добра, значыць ён сапраўды прапрацаваў матэрыял, атрымлівае бал вышэй, радуецца. Калі ж ён не выканаў работу, то вучань цяпер не плача і не просіць не ставіць яму дрэнную адзнаку. Дзеці разумеюць і сваю адказнасць таксама.

Мы з вучнямі дамовіліся пра правядзенне эксперыменту з бацькамі. Цяпер, прыходзячы дамоў пасля ўрока нямецкай мовы, яны просяць бацькоў іх паслухаць. Кожны вывучаны мінімум на ўроку дзеці прадстаўляюць на суд бацькоў. Вывучаем es gibt (ёсць), гаворачы пра будынкі. Дома дзеці прадстаўляюць усё, што ведаюць па-нямецку ў кватэры: сталовы посуд, пакоі, адзенне… Усе бацькі задаволены і многія пытаюць: “А чаму навучыўся сёння?”

***Юлія Паўлава, настаўніца беларускай мовы гімназіі №1 Барысава:***

Настаўніку пастаянна не хапае часу. ЗС – працэс працаёмкі, займае шмат часу.

Мы з вучнямі дамовіліся, што, калі работа выканана на «выдатна», яны ад мяне атрымліваюць вусную пахвалу і адзнаку па жаданні (зразумела, добрую адзнаку хочуць атрымаць усе). Таму частка работ пісьмовай ЗС не патрабуе.

Я карыстаюся яшчэ адным варыянтам. Але ён падыходзіць тым, у каго дазваляюць магчымасці школы. У нас у школе арганізавана дыстанцыйнае навучанне. На сваёй старонцы я выкладваю тэарэтычны матэрыял, тэсты, заданні. Вучні выконваюць іх. Камп’ютар правярае работу, паказвае мне, дзе памылкі былі. Мне застаецца толькі на камп’ютары набраць вучню ЗС і адправіць яму. Вучань мне таксама можа адказаць. Прычым гэта адбываецца не на агульным форуме, а падчас асабістай перапіскі. Мне значна прасцей набраць ЗС і адправіць па электронцы, чым напісаць на паперы. Мае вучні самі раздрукоўваюць нашу перапіску, каб было зручней працаваць, але мы дамовіліся, што гэта справа кожнага з іх.

***Ганна Піскуновіч, метадыст Глыбоцкага РАА, настаўніца беларускай мовы:***

Няма ніякіх законных забаронаў на тое, каб пісаць пісьмовыя заўвагі ў сшытку! А наконт «арфаграфічнага рэжыму» (ён так ужо не называецца!), то праблем і няма. Калі ў нас вельмі «ўедлівы» адміністратар пачаў «прыдзірацца» да настаўнікаў за «пісьмы да вучняў», я, каб дапамагчы, звярнулася да ўсіх дакументаў – і забароны гэтаму (пісьмоваму каментару) не знайшла. Няма забароны – няма праблемы! Настаўнікам, у якіх такія сітуацыі будуць узнікаць, раю чытаць уважліва метадычныя лісты і не баяцца сябе адстойваць.

***Наталля Бартошык, настаўніца гісторыі Бокшыцкай СШ Слуцкага раёна***

Не ўсе дзеці хочуць дапрацоўваць работу пасля ЗС, але адзнакі “1-2” зніклі ў некаторых класах, або амаль зніклі. Псіхалагічны мікраклімат на ўроках становіцца больш цёплы, спакойны. Вучні цэняць павагу да сваёй асобы і з задавальненнем ідуць на дыялог. Канечне, ёсць розныя вучні, але мікраклімат стаў больш спрыяльны.

***Галіна Скарына, настаўніца беларускай мовы гімназіі г. Белаазёрска***

ЗС вучні прымаюць станоўча. Я працую ў гімназіі, таму большасць дзяцей матываваны на вучобу, яны самі шукаюць шляхоў да лепшых вынікаў. Таму давялося неаднойчы чуць просьбу: «А мне прапішыце, што канкрэтна падвучыць, якое дадатковае заданне выканаць.»

Стала больш даверу паміж мною і вучнямі. Яны адчуваюць маю зацікаўленасць не ў выстаўленні дрэнай адзнакі за няведанне, а ў жаданні спрыяць засваенню ведаў. Ім гэта даспадобы. Ім камфортна. А мне прыемна адчуваць гэта.

Настаўнік.інфо.
Інфармацыйна-метадычны бюлетэнь для настаўнікаў
Выдаецца ініцыятыўнай групай стваральнікаў сайта ***Nastaunik.info***
Адрас для допісаў: ***nastaunik.info@gmail.com***
Наклад 200 асобнікаў